

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# Наша слова.pdf



**Чацвёрты год выдання** **№ 3 (159) 15 студзеня 2025 г.**

# Чым багатыя: Лідчына на "Марафоне адзінства" прадставіла сваё самае лепшае

Усе дарогі напрыканцы мінулага тыдня вялі да Лядовага палаца г. Ліды, на тэрыторыі якога размясціліся выставачныя павільёны прадпрыемстваў і арганізацый Лідчыны. І кожны паспрабаваў бліснуць у сваім самым лепшым выглядзе. Было цікава і відовішчна, смачна і весела, музычна, моладзева, крэатыўна… Адным словам: чым багатыя, як той казаў…



З самай раніцы пляцоўку запоўніла моладзь. І - не выпадкова… Прыцягальнымі для юнага пакалення сталі відовішчныя і функцыянальныя пляцоўкі Лідскага РАНС, Лідскага РАУС, Дэпартамента аховы і вайсковых частак Лідскага гарнізона. Можна было пасядзець усярэдзіне танка, прымерыць абмундзіраванне выратавальніка, выпрабаваць сябе ў экстрэмальных труках, панаглядаць за працай службовага сабакі і пасядзець за рулём стромкага байка. Увагу лідзян прыцягваў і вялікі чырвоны МАЗ - спартовы гоначны аўтамабіль вытворчасці Менскага аўтазавода, які, між іншым, у мінулым годзе ў гонках на "Шаўковым шляху" заняў 3-е месца.

Знатакам народнай творчасці не прыйшлося нудзіцца: артысты філіялаў Лідскага цэнтра культуры і народнай творчасці прадставілі калядны сюжэт: вадзілі казу, насілі зорку - з імі было вельмі весела, і ногі самі ішлі ў скокі. Майстры народных рамёстваў з усёй Гарадзеншчыны прывезлі тканыя ручнікі і ўнікальныя вырабы з саломкі, цацкі, пано і вельмі шмат рукатворных шэдэўраў! Тут жа стаялі станкі - за працэсам вытворчасці тканых вырабаў можна было назіраць увачавідкі.



Бліснулі сваёй лепшай прадукцыяй, навінкамі вытворчасці прадпрыемства Лідчыны. У кожнага з выставачных павільёнаў хацелася спыніцца… Напрыклад, шклозавод Нёман" прэзентаваў калекцыю крышталю ў тэхніцы "іней". Узоры ручной працы на вырабах, сапраўды, нагадваюць іней. Сапраўдная зімовая казка! Адкрыўшы крыштальную скрыначку, хацелася пакласці ў яе запаветныя жаданні. А якія яны могуць быць на "Марафоне адзінства"? Вядома ж, пра шчасце, мір, адзінства для нашай краіны.




"Лідская мука" - вядомы брэнд не толькі нашага горада, але і краіны ў цэлым. На сваёй пляцоўцы прад-














прыемства прадставіла мноства гатункаў і разнавіднасцяў мукі. Для блінцоў, аладак, піцы, кексаў, тартоў, печыва, хрусту, пончыкаў - асартымент здольны задаволіць запыты нават самага патрабавальнага пакупніка! Лідскі хлебазавод адмыслова да свята прыгатаваў фірмовыя пернікі з лагатыпам "Марафона адзінства" і шчодра частаваў імі гасцей. Лідская "Лакафарба" сваімі яркімі адценнямі прыцягвала ўвагу (літаральна прыцягвала) нават дзяцей. Вядомыя і ўпадабаныя прадукты, а таксама смачныя навінкі пад маркамі "Лідкан" і "MiLida" прадстаўлялі ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты" і "Лідскі малочна-кансервавы камбінат".

Адну з самых цікавых лакацый прадставіла Гарадзенскае абласное аб'яднанне прафсаюзаў. Некалькі выстаўных павільёнаў аб'ядноўваліся тэмай "Падарожнічаем з прафсаюзам па Беларусі".

- "Марафон адзінства" ў Лідзе сабраў разам людзей розных узростаў і прафесій і стаў яркім прыкладам таго, як культура гуртуе грамадства, - адзначыў старшыня абласнога аб'яднання прафсаюзаў Віктар Лісковіч. - Прафсаюзны актыў Гарадзеншчыны актыўна далучыўся да свята, прадставіўшы пляцоўку "Падарожнічаем з прафсаюзам па Беларусі". Дадзеная лакацыя паказала ўсе добрыя якасці нашай выдатнай шматграннай Беларусі. Асобныя яе "станцыі": Беларусь моцная, Беларусь прыгожая, вольная, любімая, народная - дэманструюць сілу і адзінства беларускага народа, непаўторнасць нашай любай Беларусі. Наведаўшы выстаўныя павільёны прафсаюзаў, любы наведвальнік пераканаецца, што ў нас вельмі шмат годных прыгожых месцаў, якія павінен убачыць кожны беларус.

Пры такой колькасці актыўнасцяў (а на пляцоўцы да таго ж праходзіў моладзевы квэст "Гэта ўсё маё роднае") аднавіць сілы дапамагалі смакоцці ад аб'ектаў гандлю і агулхарчу. Немагчыма было мінуць прыгожай вітрыны выязнога фудтрака ўнівермага "Беларусь" пад шыльдай "Дранікі-каханікі". Кухары спяклі іх у форме сэрца, і ў назву, і ў змест, вядома ж, уклаўшы любоў да Беларусі. Зрэшты, агулхарч гатовы быў задаволіць любы густ: ад гарачай салдацкай кашы і духмяных шашлыкоў да разнастайнага меню рэстарана Mak.by.




Меркаванне ў тэму:

Часлаў Барко, намеснік дырэктара па ідэалагічнай працы ГЛХУ "Лідскі лясгас":

- На працягу двух дзён разам з калегамі мы пабывалі на шматлікіх мерапрыемствах "Марафона адзінства". Прысутнічалі на сустрэчы з Дзяржаўным дзеячам, генерал-палкоўнікам Леанідам Мальцавым - было вельмі цікава і пазнавальна. Леанід Сямёнавіч адказаў на ўсе пытанні, асабліва змястоўна - па ваеннай тэматыцы. З моманту станаўлення незалежнай Рэспублікі Беларусь і да сённяшняга дня. Распавёў пра перавагі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Вядома, нам хацелася б, каб мір і спакой і далей захоўваліся ў нашай краіне. Мы да гэтага прывыклі, а да добрага хутка прывыкаеш. З калегамі мы ацанілі дасягненні Лідчыны на святочных пляцоўках. Нашую ўвагу прыцягнула сучасная тэхніка, якая выпускаецца на беларускіх заводах. Пабывалі ў мабільным музеі Вялікай Айчыннай вайны. Убачылі фота генерала Васіля Захаравіча Каржа, камандзіра аднаго з першых партызанскіх атрадаў у Беларусі, які пасля вайны быў намеснікам міністра лясной гаспадаркі. Прынялі ўдзел у дыялогавай пляцоўцы і ў вячэрнім гала-канцэрце.

***Вольга Яхантава,***
*lidanews.*





# Подзвігі і лёсы партызан у дакументах

*Выставу "Подзвігі і лёсы партызан у дакументах" прадставілі на "Марафоне адзінства" ў Лідзе.*

Падчас "Марафона адзінства" ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі разгарнулася інтэрактыўная выстава "Подзвігі і лёсы партызан у дакументах".

Гэта сумесны праект Выдавецкага дома "Беларусь сёння" і Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, заснаваны на матэрыялах унікальнага мультымедыйнага інтэрнэт-праекта "Партызаны Беларусі".






Экспазіцыя не проста дэманструе гістарычныя матэрыялы - гэта партал у мінулае, які адкрывае перад намі лёсы тых, хто ўстаў на абарону Радзімы.

Тут можна ўбачыць унікальныя фатаграфіі, якія захавалі імгненні гераічнасці і самаахвярнасці, дакументы, якія распавядаюць пра баявыя дзеянні, узнагародныя лісты








і баявыя характарыстыкі як вядомых камбрыгаў і Герояў Савецкага Саюза, так і радавых байцоў партызанскіх атрадаў.

***ТК "Культура Лідчыны".***





# Грандыёзны канцэрт стаў кульмінацыяй "Марафона адзінства" ў Лідзе

Канцэрт "Час абраў нас" стаў яркім фінальным акордам рэспубліканскай грамадска-культурнай акцыі "Марафон адзінства", якая 10 і 11 студзеня праходзіла ў горадзе Лідзе.

Самыя добрыя пажаданні ад імя Кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі ўсім удзельнікам марафона адрасаваў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Пярцоў. Ён таксама ад сябе адзначыў, што мэта "Марафона адзінства" - паказаць нашы гарады і рэгіёны.

- Для мяне велізарны гонар стаяць на гэтай сцэне і адкрываць канцэрт "Марафона адзінства", які два дні захопліваў сваімі мерапрыемствамі, сустрэчамі, канцэртамі, выставамі. Гэтае свята па даручэнні Кіраўніка дзяржавы праехала ўжо практычна па ўсёй Беларусі. І вось яго сустрэла Ліда, - сказаў Уладзімір Пярцоў. - Я паглядзеў сёння, што добраўпарадкаванне, чысціня вашых вуліц - гэта, напэўна, брэнд вашага прыгожага горада. Але Ліда - гэта яшчэ і шматлікія прадпрыемствы: наўскідку можна назваць "Лакафарбу", MiLida, "Лідскую муку", "Лідскае піва" і іншыя. Вы сваёй працай ствараеце сапраўдную эканамічную моц нашай краіны. І калі ў нас будзе эканоміка, як сказаў Кіраўнік нашай дзяржавы, у нас усё будзе добра.

Са сцэны да лідзян таксама звярнуўся старшыня Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта Уладзімір Каранік:

- Сёння на Лідскай зямлі наша вобласць прымае адзін з самых маштабных праектаў у краіне - "Марафон адзінства". Сімвалічна, што дадзены праект стартаваў 17 верасня 2024 года ў Дзень народнага адзінства. Сямнаццатае верасня - гэта адмысловая дата для нашага рэгіёна. Наш край захаваў памяць пра тое, як беларусаў сілай спрабавалі падзяліць.

Сёння мы рады вітаць Марафон у Лідзе. Тут яго ўдзельнікі і госці, я ўпэўнены, змаглі адчуць біццё сэрца гэтага старажытнага, але ў той жа час вечна маладога горада, адчуць гасціннасць і ветлівасць яго жыхароў, пагрузіцца ў яго ўнікальную атмасферу. Не выпадкова менавіта Ліда ў 2020 годзе з'ўялялася культурнай сталіцай Беларусі, а ў 2025-ым уганаравана правам правесці свята роднага слова - Дзень беларускага пісьменства.



Справядлівае сцвярджэнне: "Сабрацца разам - пачатак. Трымацца разам - прагрэс. Працаваць разам - поспех". Сёння "Марафон адзінства" наглядна дэманструе, што мы разам. Мы - спадчыннікі пакалення пераможцаў - выразна ўсведамляем, што менавіта адзінства нашага народа дазволіла перамагчы тады і дазваляе цяпер з добрай якасцю прымаць выклікі нашага няпростага часу.

Як кажа наш Прэзідэнт: "Час абраў нас!", і мы павінны даказаць, што годныя гэтага выбару! Таму "Марафон адзінства" - гэта не проста акцыя. Гэта знак нашага імкнення да згуртаванасці і прагрэсу. Гэта магчымасць кожнаму адчуць сябе неад'емнай часткай адзінага цэлага, накіраванага на светлую будучыню нашай любай Беларусі!

На сцэне Лядовага палаца выступілі такія мэтры, як народны артыст Рэспублікі Беларусь Анатоль Ярмоленко, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Жанет, арт-група "Беларусы", заслужаны дзяржансамбль "Песняры", уладальнікі медаляў Францыска Скарыны Юлія Быка-






























ва, Аляксандра Гайдук, Ганна Благава і іншыя папулярныя беларускія выканаўцы, а таксама лепшыя творчыя калектывы Гарадзенскай, Менскай, Віцебскай абласцей.

Кожны выступ артыстаў сустракаўся бурнымі апладысментамі. Захопленыя погляды, усмешкі і выдатны настрой панаваў у Лядовым палацы на працягу дзвюх гадзін. Канцэрт "Час абраў нас" стаў незабыўным падарункам для ўсіх гледачоў.

А марафон тым часам працягне сваё шэсце па гарадах Беларусі. Наступнай кропкай маршруту "Марафона адзінства" стане Наваполацк 13 і 14 студзеня, а крыху пазней, 17 і 18 студзеня, - Гародня.

***Анжаліка ЗАБРОДСКАЯ,***
*lidanews.*

*Станіслаў Суднік*

# БЕЛАРУСКАЯ МЕТАЛІНГВІСТЫКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Сахор. Вілкі. Габлі. Граблі.**

З кураножкі ці развілкі вернемся назад у хату. Тут мы знайходзім сваякоў ***вілаў***, якія называюцца ***вілкі***. ***Вілкі,*** як і ***вілы*** маюць толькі множны лік. Вілкі прымяняюцца, калі трэба паставіць гаршчок ці чыгун у печ або выняць з печы. У рускай мове гэтая прылада называецца ***ухват*** (адзіночны лік, мужчынскі род). Куток



***Дарожны знак перад кураножкай***



каля печы, дзе стаялі вілкі, называецца ***вілочнік***.

Выйшаўшы з хаты і падняўшы галаву на многіх хатах раней можна было ўбачыць ***вільчыкі***. **Вільчык** - разное ўпрыгожване вяршыні страхі, закрылін. Вільчык нечым нагадвае вілы таму так і называецца.







***Узоры вільчыкаў***

Але вернемся да сахара. З-за сваёй шырокай распаўсюджанасці сахор стаў у некаторай ступені сімвалам Беларусі. Ён з’явіўся на паўстанцкіх мемарыялах побач з касою. Каса як зброя касінераў - гэта зразумела. У паўстанцаў 1863 года жалезных сахароў яшчэ не было, але пазней яны з’явіліся масава. У кнізе “Каханак Вялікай Мядзведзіцы” Сяргей Пясецкі прыводзіць жартоўную гутарку двух кантрабандыстаў.

*Ідуць яны па Ракаве і бачаць беларускага мужыка, які вязе воз гною. Зверху ў гной быў уваткнуты сахор.*

*- Во, беларускі карабін машыновы (аўтамат, кулямёт), - сказаў адзін, паказваючы на сахор.*

*- Што гэта значыць?*

*- Адзін удар - чатыры дзіркі.*

Сахары ёсць розныя: ёсць з трыма зубамі, але найчасцей з чатырма.

У згаданым польскім рэкламным праспекце ёсць сахор з загнутымі зубамі. У праспекце прылада мае тую ж назву ***відлы***. У беларускай вёсцы ні віламі ні сахаром такую прыладу не назавуць. Часцей за ўсё прымянялі назву ***крук*** або ***воўк***. Як правіла спецыяльна іх не куплялі, а загіналі ў кузні зубы ў старым сахары, які страціў раней адзін зуб. Крук прымяняўся для сцягвання гною з задняй часткі воза ці з саней.



У праспекце пад назвай ***відлы*** падаецца і яшчэ адна прылада, падобная на сахор, у якой 8-10 зубоў з затупленымі, закругленымі канцамі. У праспекце яна называецца ***відлы для буракоў і бульбы.*** У Беларусі ў розных месцах таксама бытуе назва ***вілы для буракоў і бульбы***, але там дзе шырока распаўсюджана слова сахор гэтая прылада мае сваю адметную назву ***габлі***. Што габлі - адметная прылада, кажа і цана. Так у рэкламным праспекце цана на звычайны сахор з чатырма зубамі стаіць 1 зл. 80 гр., у той жа час цана габляў на 10 зубоў - 10 злотых.







Адкуль узялося слова ***габлі***? Яго няма ў акадэмічным слоўніку беларускай мовы, але па гучанні яно вельмі блізкае да слова ***граблі***. Гэта і лагічна - у граблях таксама шмат зубоў 10-12. Выпаданне літары ***р*** са слова ***граблі*** дало нам новае ўнікальнае слова ***габлі***, якое распаўсюджана эпізадычна па многіх мясцінах Беларусі. Яно ёсць на Нясвіжчыне, яго няма на Лідчыне, але яно зноў ёсць на Шчучыншчыне і г.д.

Некалі слова ***сахор*** уключалася далёка не ва ўсе слоўнікі, а калі і ўключалася, то з паметкай *абл.* Зараз ужо ***сахор*** ставіцца як агульнанацыянальнае. Магчыма, і ***габлі*** неўзабаве трапяць у слоўнік.

Ну і ёсць нагода адразу перайсці да слова ***граблі.***

**Граблі** - прылада для зграбання сена, саломы, скошанай травы. Вядомыя з глыбокай старажытнасці. Драўляныя граблі складаюцца з **галоўкі** (іншая назва **стаўпец**) з 8-14 зубамі і **грабільна** або **дзяржання**. Зубы даўжынёй 7-10 см выразаюцца з цвёрдых парод дрэва (дубу, грабу, ясеню) і ўстаўляюцца ў стаўпец на адлегласці 5-5,5 см адзін ад аднаго. Развілка грабільна мацуецца **рэхвай** або звязваецца дротам ці збіваецца цвіком. Стаўпец можа быць прамы ці злёгку загнуты.



Часцяком зубы ў граблях вывальваліся і губіліся. Каб уставіць новыя выкарыстоўваўся падручны матэрыял. Дуб ці граб - не той матэрыял, каб быць пад рукой, для вырабу новых зубоў выкарыстоўвалася такое дрэва як **бэз**. Бэз на вёсцы заўсёды быў пад рукой, а па цвёрдасці задавальняў усім патрабаванням.

Яшчэ ў часы міжваеннай Польшчы ў Заходняй Беларусі з’явіліся жалезныя граблі. Грабільна драўлянае.









Граблі былі дарагія ад 2,25 зл да 4,30 зл. (ад пуда жыта да двух пудоў). Жалезныя граблі шырока прымяняюцца і сёння ў першую чаргу ў агародах і садах.

У наш час для зграбання сена, травы, лісця з’явіліся пластмасавыя граблі з драўляным грабільнам. Лёгкія і танныя яны выцясняюць драўляныя граблі, якія зараз у вёсцы і зрабіць няма каму. Мы ідзём да таго, што драў-



ляныя граблі хутка стануць музейнымі экспанатамі.

Затое пры вытворчасці пластмасавых грабляў дызайнеры маглі даць волю фантазіі, хаця ад стандарту далёка не адышліся. Аснова - частыя зубы - засталася.





Граблямі грабуць. І дзеяслоў ***грэбці*** можа быць першасным. Грабуць не толькі граблямі, грабуць пясок куры. Былі і ёсць розныя **грабілкі**. Граблі сугучна называюцца амаль ва ўсіх славянскіх мовах (выключэнне балгарская), а таксама ў літоўскай і латышскай. Гэтая агульнасць назвы пацвярджае старажытнасць слова, але ўжо ў іншых інда-арыйскіх мовах ужываюцца зусім іншыя словы, таму мы можам адназначна сказаць, што словы ***граблі, грэбці, згрэбці, загрэбці, падгрэбці, прыгрэбці*** з’явілася ў нашай мове пасля прыходу ў еўрапейскую частку Еўразіі. І слова гэта сваё, не запазычанае з тэхналагічнай Еўропы. Па тэхналогіі вырабу грабляў мы тады ад Еропы не адставалі.



***Веерныя граблі з металічнымі зубамі і чыста пластмасавыя***

Ёсць у нашай мове і іншыя словы блізкі па гучанні да слова ***грэбці***, але пра іх - у новым выпуску.

# Музейны працаўнік года Наталля Хацяновіч

13 студзеня на сцэне Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатра прайшла цырымонія ўзнагароджання лепшых дзеячаў творчай сферы рэгіёна.

Дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея Наталля Аляксандраўна Хацяновіч - лаўрэат прэміі імя А. І. Дубко ў намінацыі "Музейны працаўнік года".






***ТК “Культура Лідчыны”.***





# Мастак, які стаў вядомы пасля смерці

Неардынарнай асобай у гісторыі беларускага мастацтва XX стагоддзя быў беларускі мастак Аляксандр Ісачоў (1955-1987), якому лёс адмераў крыху больш за 30 гадоў жыцця. 11 студзеня яму споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння.



Нарадзіўся Аляксандр Ісачоў у г. п. Азарычы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. У трохгадовым узросце застаўся без бацькі. У хуткім часе маці з дзецьмі пераехала ў Рэчыцу. Вучыўся Аляксандр Ісачоў у Мазырскай школе-інтэрнаце. У 1967-1970 гадах - у Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве, з якой пасля чатырох гадоў навучання быў выключаны. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Рэчыцкай вячэрняй школе рабочай моладзі, працаваў тынкоўшчыкам у мясцовым рамонтна-будаўнічым упраўленні. У пачатку 1973 года мастак паехаў у Ленінград. Там ён апынуўся ў асяроддзі нефармальнай творчай моладзі, непрызнаных мастакоў. Юнак трапіў у атмасферу бурных абмеркаванняў, спрэчак, сходаў, удзельнічаў у некалькіх неафіцыйных выстаўках, адначасова знаёміўся з мастакамі-авангардыстамі і іх нетрадыцыйным жывапісам. Пад уплывам нефармальнай мастакоўскай плыні і сфармаваўся Аляксандр Ісачоў як сапраўдны мастак са сваім незвычайным почыркам. У снежні 1973 года ён вярнуўся ў Рэчыцу і пачаў мэтанакіравана пісаць карціны. Асноўнымі тэмамі сюжэтных палотнаў становяцца біблейскія



***Апостал Пётр***

матывы - "Што ёсць ісціна…", "Апошняя пропаведзь" (абодва 1976), "Укрыжаванне", "Зняцце з крыжа" (абодва 1977) і інш. Мастак пачаў працаваць і над міфалагізаваным партрэтам - "Рахіль", "Майсей" (абодва 1976), "Ісус" (1978) і іншыя. Палотны нескладаныя па кампазіцыйнай пабудове, поўныя ўнутранага драматызму. Вобразы святых-пракрокаў вырашаны вельмі проста, але разам з тым пранізаны глыбокім лірызмам, пачуццямі болю і смутку. Адным з цэнтральных вобразаў з'яўляецца Ісус Хрыстос. Мастак стварае яго па-рознаму: з абраза глядзіць супакоены лік, які ўсяляе ў душу прасвятленне і надзею. На палотнах адсутнічаюць атрыбутыка і сімволіка, толькі адзін твар і галоўнае - вочы, у якіх не толькі мудрасць і любоў, але і моц, што гіпнатызуе. Пісаў таксама нацюрморты ("Нацюрморт з чарапамі" (1975), "Нацюрморт з падносам і адчыненым акном…" (1977) і інш.), пейзажы ("Травы", "Дрэвы", (абодва 1975), "Пасля патопу" (1977), "Мая зямля" (1978) і інш.). Жывапісныя работы Аляксандра Ісачова выкананы ў лесіровачнай манеры пісьма, вельмі працаёмкай і карпатлівай. Гэтую тэхніку, як і іншыя сакрэты жывапісу, ён спасцігаў самастойна.

З 1980-х гадоў пачаўся самы плённы этап у творчасці Аляксандра Ісачова. У мастака сфарміравалася дакладная творчая манера, выпрацаваўся непаўторны мастацкі стыль. Яго карціны адрозніваліся арыгінальнасцю рашэнняў і глыбінёй думкі. У пошуках новых мастацкіх формаў Аляксандр Ісачоў звяртаўся да культур старажытных цывілізацый Грэцыі, Егіпта, Індыі. На







***Ісус***

карцінах багі розных рэлігій суседнічаюць адзін з адным, атрыбутыка некалькіх культур часта прысутнічае на адным палатне ("Іскандэр", "Маленне пра чашу" (абедзве 1981), "Тамерлан" (1982), "Апалон і душа" (1986), "Запрашэнне на пір" (1985-1987) і інш.). Вялікае месца ў творчасці мастака займае вобраз жанчыны ("Ісіда-Персефона", "Ева", "Ліліт" (усе 1982), "Магія" (1983-1984),



***Майсей***

"Персефона" (1984-1985), "Ля крыніцы" (1987), "Муза", "Дрыяда" (абедзве карціны 1985-1987 гг.) і інш.). Свае персанажы мастак надзяляе асаблівым пачуццём, вытанчанасцю і раскошай. Яны чароўныя і грацыёзныя, напоўненыя экспрэсіяй і таямніцай. Адной з апошніх работ мастака з'яўляецца "Алегорыя мастацтва" (1983-1987), па якой можна меркаваць аб асноўных этапах творчасці Аляксандра Ісачова. Карціна падводзіць вынікі яго роздумаў аб тленнасці быцця і хуткацечнасці жыцця, сапраўдных ідэалах чалавечай прыгажосці і вечных духоўных каштоўнасцях. Мастак таксама займаўся графікай і іканапісам. Напісаў многа абразоў для рэчыцкай Свята-Пакроўскай царквы, распісаў Свята-Міхайлаўскі кафедральны сабор у Мазыры, выконваў заказы і для іншых храмаў Гомельскай вобласці.



***Прычасце***

Працаваў Аляксандр Ісачоў вельмі шмат. У канцы 1987 года ў Рэчыцы адкрылася яго першая выстаўка карцін (сумесна са скульптарам Максімам Пажарыцкім). Праз два дні мастак памёр ад сардэчнага прыступу каля мальберта ў сваёй майстэрні. Пасля сябе Аляксандр Ісачоў пакінуў больш за 500 жывапісных палотнаў і тысячы графічных лістоў. Большая частка з іх не знайшла прызнання ў Беларусі і была вывезена ў Германію, Швецыю, Францыю, Ізраіль, ЗША і іншыя краіны. Сёння іх можна ўбачыць у галерэях Заходняй Еўропы, прыватных калекцыях. Невялікая калекцыя знаходзіцца ў Рэчыцкім краязнаўчым музеі. У 1988 годзе на кінастудыі "Беларусьфільм" рэжысёрам Анатолем Алаем пра Аляксандра Ісачова быў зняты фільм "Не плачце па мне". Слава і шырокая вядомасць прыйшлі недаравальна позна, але не іх шукаў мастак, проста яму было што сказаць людзям.

***NN.***





Валяр'ян Харкевіч

# Які абраз Найсвяцейшай Панны Марыі быў вернуты католікам

Ад перакладчыка: Гэтаму артыкулу папярэднічала наступная інфармацыя: *"Слонім, у чацвер, 2 лютага архімандрыт мясцовага праваслаўнага манастыра Бабкоўскі перадаў кс.-дэкану Кафарскаму для каталіцкай парафіі ў Жыровічах абраз Маці Божай Жыровіцкай, ахвяраваны ў 1738 г. жыровіцкай царкве прадстаўніком Закона базыльянаў у Рыме а. Турлевічам ..."*.

*Slowo. 1939. № 34.*

"Слова" апублікавала навіну, з якой даведваемся, што *"абраз Маці Божай Жыровіцкай вярнуўся да сваіх законных уладальнікаў"*. Гэта інфармацыя фармальна адпавядае рэчаіснасці, тым не менш яна можа ўвесці ў зман чытачоў.

**Пра які абраз ідзе размова?**

Цудадзейны абраз Жыровіцкай Божай маці, з-за якога Жыровічы атрымалі назву "літоўскага Чанстахова", паводле легенды, цудоўным чынам з'явіўся ў лесе на грушы ў 1470 г. Тагачасны ўладальнік Жыровічаў, літоўскі падскарбій Аляксандр Солтан, якому пастушкі прынеслі гэты абраз, пераканаўшыся ў яго цудадзейнасці, пабудаваў у лесе царкву і размясціў у ёй гэтую святыню.

Быў гэта невялікі абраз, накшталт абразкоў, які размяшчаюць на рыцарскіх нагрудных знаках - рынграфах, выява Маці Божай была выразана на яшме. Якое ж паходжанне гэтага абраза? Безумоўна - заходняе, хаця б таму, што праваслаўная царква не прызнае рэзьбаў у сваіх храмах. Хутчэй за ўсё, абраз каталіцкі.

Аляксандр Солтан, як мы ведаем, быў у Рыме ў 1471 г. пасля чаго адбыў пілігрымку ў Іерусалім, дзе стаў рыцарам св. Труны.

Праваслаўны з паходжання Солтан, у Рыме перайшоў у каталіцызм з захаваннем грэцкага абраду. Найверагодней, менавіта з Рыма ён прывёз гэты незвычайны па форме і памерах святы абраз Божай Маці. Пасля вяртання ў Вільню Солтан сустрэў там вельмі непрыязнае стаўленне да сябе з боку каталіцкага духавенства, якое не прызнала яго за католіка.

Кс. прафесар Каміль Кантак у сваёй манаграфіі "Бернардыны ў Польшчы" [1] (Т. 1., С. 172.) так расказаў пра гэты эпізод: *"Катэдральны прапаведнік з амбона выступіў супраць Солтана, не саромеючыся назваць яго сабакам. Гэтак аблаяны, ён зноў адпаў у схізму"*.

Італьянскае паходжанне Жыровіцкага абраза, пацвердзіў рускі гісторык мастацтва Н. П. Кандакоў у кнізе "Иконография Богоматери. Связь греческой и русской




иконографии с итальянской живописью раннего Возрождения". Іншы аўтарытэтны рускі гісторык мастацтва Е. Пасялянін, абмежаваўся апісаннем абраза і не засяродзіўся на яго паходжанні. Польскія гісторыкі мастацтва не працавалі над генезісам цудоўнага абраза М.Б. Жыровіцкай.

Лацінскі з паходжання (пра гэта кажа ўсё!), праваслаўны з-за адыходу Солтана ад каталіцызма, жыровіцкі абраз з 1613 г. зноў стаў каталіцкім, знайшоўшы сабе руплівых прыхільнікаў і апекуноў у асобах айцоў базыльянаў, кляштар якіх заклаў у Жыровічах св. Язафат Кунцэвіч. З таго часу пачаліся шматлікія цуды, і слава пра цудатворны абраз шырока распаўсюдзілася. У 1730 г. адбылася цудоўна арганізаваная каранацыя абраза.

Пасля скасавання уніі ў 1839 г., жыровіцкая святыня разам з абразом перайшла да праваслаўных. Пачалі расказваць, што базыльяне, пакідаючы Жыровічы,

[1] Гл. пераказ гэтай кнігі: Бернардыны ў Літве і Беларусі // Наша слова.pdf № 40, 5 кастрычніка 2022.; № 41, 12 кастрычніка 2022.; № 42, 19 кастрычніка 2022.; № 43, 26 кастрычніка 2022.

забралі з сабой цудадзейны абраз і замест яго пакінулі копію. Ці гэта і сапраўды было так, сказаць цяжка. Копіі існавалі. Пра адну з іх, зробленую па замове епіскапа Сямашкі, ён сам распавядае ў сваіх успамінах. Той ці іншы (аўтэнтычны ці копія) абраз М.Б. Жыровіцкай, выгравіраваны на яшме, дагэтуль захоўваецца ў праваслаўных і вісіць з левага боку іканастаса ў адмысловай шкляной скрыні.

**Які ж абраз вярнулі каталікам? Зусім іншы!**

Базыльяне мелі кляштар у Рыме. У 1718 г. рэктар Бенядыкт Турлевіч загадаў адрамантаваць кляштар. Муляр Сымон Цёцці распачаў атынкоўку сцен у калідоры паміж кухняй і сакрыстыяй і падчас працы адкрыў выяву Дзіцятка Ісуса, ад якога ішло асляпляльнае святло. Пасля адкрыцця ўсёй выявы, якая хавалася пад тынкам, стала зразумела, што гэта копія цудадзейнага абраза М.Б. Жыровіцкай. Пачалі адбывацца цуды. Незвычайныя ласкі атрымалі, між іншым, кс. Цэзарыні, пляменнік папы Інакенція XIII, кс. ды Пёмбіна, кс. ды Рысполі, кс. Качэрта, граф Ташчыні і шмат іншых асоб. Па загадзе папы Клемента XI, 07.09.1719 г. частка мура з абразом была вынята са сцяны і перанесена ў касцёл, у пабочны алтар, насупраць алтара св. Язафата.

Ну, а копію цудадзейнага абраза Madonny del Pascolo (гэтак італьянцы называюць абраз М.Б. Жыровіцкай) Турлевіч пераслаў у Жыровічы, дзе на шчасце яна дажыла да нашых дзён. Менавіта яе праваслаўныя і вярнулі каталікам. Безумоўна, вартасць гэтага абраза, як прадмета рэлігійнага культу, як мастацкага твора і гістарычнага помніка, вельмі высокая.

Такім чынам, сёння склалася такая сітуацыя: цудадзейны абраз, паходжанне якога звязана з жыццём грэка-католіка Аляксандра Солтана, знаходзіцца ў праваслаўных. Цудатворны абраз Madonny del Pascolo - уласнасць бызыльянаў-украінцаў, грэка-католікаў. Рымакатолікі атрымалі копію рымскага абраза.

Гэта вяртанне, верагодна, каталіцкага абраза, трэба сустракаць з асаблівай радасцю як знак добрых стасункаў у будучыні паміж католікамі і праваслаўнымі, якія ў Жыровічах маюць, у рэшце-рэшт, адзінае агульнае мінулае. […]

Трэба сказаць пра рукапісы, у якіх апісваюцца ўсе цуды, якія адбываліся ў Жыровічах на працягу некалькіх стагоддзяў. Гэты летапіс змяшчае апісанне Божых ласкаў, атрыманых перад абразом М.Б. Жыровіцкай, пацверджаных подпісамі сведак. Бясцэнны дакумент!

Пасля скасавання уніі гэтыя скарбы-рукапісы перайшлі ў валоданне праваслаўных, якія, відочна, цалкам не цікавіліся грэка-каталіцкімі Жыровічамі. Калі праваслаўная кансісторыя была перанесена з Жыровічаў у Вільню, рукапісы разам з вялікім па-базыльянскім кнігазборам таксама перавезлі ў Вільню, у архіў праваслаўнай Духоўнай семінарыі, дзе яны і захоўваліся ажно да Сярэдняй Літвы[2], а потым раптоўна зніклі.

Паколькі кнігазборы і рукапісы з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю, некаторыя з іх, пасля інвентарызацыі бібліятэкарамі ўніверсітэта, па выраку Міністэрства Веравызнанняў і Асветы былі перададзены ў бібліятэку імя Урублеўскіх (перадзена базыльянская жыровіцкая бібліятэка), частка (раздзел усходняй тэалогіі) была адаслана ў Варшаву для факультэта праваслаўнай тэалогіі ўніверсітэта імя Пілсудскага, частка, верагодна, патрапіла ў бібліятэку віленскага ўніверсітэта, але многа кніжак і рукапісаў загінула …

Як потым высветлілася, кнігазборы сістэматычна раскрадаліся. Аматараў крадзеных кніг хапала, і гандаль імі развіваўся нядрэнна. Калі б не цвёрдая пазіцыя уладаў, то сёння ні ў праваслаўных, ні ў католікаў не было б старых кніг з па-ўніяцкіх збораў.

Аднак, ці загінулі бясцэнныя (варта паўтарыць яшчэ раз: бясцэнныя!) жыровіцкія рукапісы, якія змяшчаюць дакументальнае сведчанне цудаў у Жыровічах? Ці сапраўды іх ужо няма? На шчасце, не! Але трапілі яны ў рукі львоўскіх украінцаў, для якіх жыровіцкія традыцыі цалкам чужыя.

У часопісе львоўскіх базыльянаў "Analecta Ordinis S. Basilii Magni". Т. III., сшытак 3-4 за 1930 г. на С. 734 чытаем:

*"Падаем некаторую інфармацыю пра гэты каштоўны рукапіс, які ёсць у нашым распараджэнні".* І далей такія падрабязнасці:

- Том першы, памер 20 на 16 см, у пераплёце, мае 1122 старонкі, на якіх пералічаны цуды (усяго 1976), што адбыліся ў перыяд з 1558 па 1650 гг. У канцы кнігі маецца запіс па-польску наступнага зместу: *"Я, нягодны Язафат Дубянецкі, закона базыльянаў архімандрыт полацкі, гэту маю працу, якую ў гонар Найсвяцейшай Панны Жыровіцкай, знаходзячыся тут каля яе Цудатворнага абраза, як прапаведнік ахвяраваў, для яе яшчэ большага ўшанавання падчас старшынства Прывялебнага а. Канстанты Вітапольскага, аддаю"* [3].
- Том другі, няпоўны, без пераплёту. Фармат амаль такі ж: 19 на 16 см, старонкі пранумераваны ад 32 да 223. У сярэдзіне бракуе некалькіх старонак. У гэтым томе занатаваны цуды, якія адбываліся паміж 1618 і 1634 гг.
- Том трэці, вонкава цалкам падобны да першага. Ён змяшчае апісанне 1236 цудаў, якія адбыліся ў перыяд з 1658 па 1753 гг. Мае 367 старонак разам з тымі, на якіх няма запісаў.

*W. Charkiewicz. Jaki obraz N.M.P. zostal zwrocony katolikom? // Slowo. 1939. № 37.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

[2] Сярэдняя Літва - дзяржаўнае ўтварэнне на тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны ў 1920-1922 гг. - *Л. Л.*

[3] *"Ja niegodny Josaphat Dubieniecki Zak: S. B. Archimandryta Polocki te prace moia, ktoram na czesc Panny Prze: Zyrowieckiey bedac tu przy iey Cudownym Obrazie Kaznodziein ofiarowal, na czesc iey wieksza za Starszenstwa Przewiel: O. Konstantego Witopolskiego oddaie". - Л. Л.*



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Ці то індзейцы, ці то цыганы: Навумчык, Шніп, Шчур; Мікалай Румянцаў у рускім адкрыцці Амерыкі і Беларусі*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-52 (105-156) (2024); № 2 (157-158) за 2025 г.)*

Знаёмства расійскага грамадства - у асобах падарожнікаў, навукоўцаў, ваенных і іншых - з Беларуссю некаторыя называлі адкрыццём Амерыкі. Дэвід Сондэрс (David Saunders) са Школы гістарычных даследаванняў Ньюкаслскага ўніверсітэта (Ньюкасл-апан-Тайн, School of Historical Studies, University of Newcaste upon Tyne) у 2004 г. па нашым запыце даслаў нам свой артыкул з эфектным загалоўкам "Мікалай Пятровіч Румянцаў і рускае адкрыццё Беларусі" (Nikolai Petrovich Rumiantsev and the Russian Discovery of Belarus; апублікаваны ў Occasional Papers in Belarusian Studies. 1995. Vol. or № 1. P. 51-61;




***Note from David Saunders (School of Historical Studies, University of Newcastle upon Tyne) 2004-06-14 (no date on postmark). Суправаджальны, прывітальны аркушык ад Д. Сондэрса, пры адпраўцы артыкула пра М. Румянцава***

*"I will gladly supply a copy of the little article to which you refer, but unfortunately I wrote it on a typewriter so I shall have to send it to you in hard copy and by mail. Could you therefore give me a mailing address?"* (12.06.2004)).

Магчыма, *"адкрыццё" "расійскае,* а не *"рускае"*, але гэта мала мяняе сутнасць. *""The Discovery of America in Belarus" will be a chapter in our monograph on Belarusian - American Indian relations. The phrases of the ("ethnographically") "открыть Америку в Беларуси" type have been used rather frequently since 19 century"*, пісалі мы ў першым лісце Сондэрсу 12.06.2004 г.

Пры ўжыванні выразу *"адкрыццё Амерыкі"* ў прамым і - у выпадку з Беларуссю - пераносным сэнсе атрымліваўся нават пэўнага кшталту каламбур.

Ідэя "адкрыцця" нейкай "унутранай Амерыкі" ўкладзеная і ў загаловак кнігі У. Казлова "Калумбы расійскіх старажытнасцей" (Колумбы российских древностей, 1981). Анатацыя да кнігі:

*"У кнізе расказваецца пра тое, як у першай чвэрці XIX ст. вядомаму дзяржаўнаму дзеячу М. П. Румянцаву ўдалося аб'яднаць вакол сябе бліскучую плеяду навукоўцаў, якія задаліся мэтай збіраць і публікаваць дакументальныя помнікі рускай гісторыі. Шырока прыцягваючы архіўныя матэрыялы, аўтар паказвае арганізацыю дзейнасці Румянцаўскага гуртка, падрабязна асвятляе прынцыпы пошукаў і падбору матэрыялаў па гісторыі дзяржавы, літаратуры і культуры сярэдневяковай Расіі".*

Наколькі глыбокае і правільнае адкрыццё Беларусі зрабіў "Калумб" Румянцаў з дапамогай сваіх супрацоўнікаў у першыя дзесяцігоддзі 19 ст.? На гэтае пытанне




***Envelope from David Saunders (University of Newcastle) Newcastle upon Tyne no date, received 2004-06-30***






***Художественный конверт (Главное Адмиралтейство) от индеаниста Николая Смоленкина (Ленинград, умер в 2021 г.). Письмо на открытке д. 1992-01-05, получ. 1992-01-18***



ИНАКВА INAQUA

690035, СССР, ВЛАДИВОСТОК–35 А. Я. 853
ТЕЛЕФОН:(4232) 22-30-56 , 27-13-49
КОНТАКТНЫЙ ТЕЛЕФОН: 23-56-08
ФАКС:(4232) 22-30-58 , 26-07-58
ТЕЛЕКС:213211 PTB SU

P. O. BOX 853, VLADIVOSTOK–35, 690035, USSR
TELEPHONE:(4232) 22-30-56, 27-13-49
CONTACT PH: 23-56-08
TELEFAX:(4232) 22-30-58 , 26-07-58
TELEX:213211 PTB SU

Уважаемый тов. Симаков А.В.!

Сообщаем Вам, что по итогам экспедиции „Русская Америка - 250" планируется издание книги участника экспедиции, доктора ист. наук А. И. Алексеева.

С уважением к Вам
компания „Инаква"

***Letter from Inaqua company (Vladivostok), Инаква (компания) 1991-10-23 (Дальневосточная научно-техническая акционерная компания "Инаква" регистрировалась и в 2003 г.)***

ўскосна адказваюць цытаты з выказванняў, які адносяцца да другой паловы стагоддзя.

Аўтар часопіснага агляду "Вестника Европы" (ліпень 1887 г.) піша пра заканчэнне змешчанага ў ім грунтоўнага артыкула "Беларуская этнаграфія": А. М. Пыпін *"падрабязна знаёміць з усім, што да гэтага часу зроблена па высвятленні гістарычных і этнаграфічных рыс заходнерускага краю, які да пачатку 60-х гадоў застаўся ў абсалютным забыцці з боку інтэлігентнага грамадства і які быў ім адкрыты, як нейкая новая амерыка [ў нас выпісана з малой літары, так і пакідаем], толькі як вынік вызвалення сялян і сумных падзей 63-га года, што прымусілі больш пільна глянуць на гэты край"*.

І ўсё ж "славянафільства" перамагала: *"Яно пераканалася тады, што беларускі народ паходзіць з аднаго рускага кораня і, па племянных уласцівасцях, займае сярэдзіну паміж вялікаросамі і маларосамі, стоячы бліжэй да першых, і што з тымі і з другімі яго звязвае адна і тая ж праваслаўная вера"*.

Можна прыгадаць, што адной з найважнейшых асоб, якія рэалізоўвалі "румянцаўскую" праграму, быў протаіерэй Іаан Грыгаровіч.

Тады гэта было больш "археаграфічнае" адкрыццё, а пазней адбывалася і яшчэ больш глыбокае этнаграфічнае.

*"Адзін з найадукаванейшых людзей свайго часу"*, Мікалай Румянцаў, здаваўся некаторым сучаснікам, у прыватнасці М. Грэчу, *"няздольным гаваруном"*, *"пераважна адукаваным балбатуном і пустамелям"*, але быў асветнікам, што закранула і беларусаў, і нават індзейцаў. Гэта парадаксальна, але парадаксальнае было і ў дзейнасці Грэча, Булгарына, якія змяшчалі ў сваіх выданнях шмат матэрыялаў пра Рускую Амерыку.

Румянцаў, несумненна, быў у курсе расійска-індзейскіх сувязей, пра што сведчыць яго перапіска, змешчаная ў зборніках дакументаў па адносінах Расіі і ЗША. За ходам асваення Рускай Амерыкі ён сачыў і са сваіх гомельскіх уладанняў (напрыклад, калі 3.08.1818 г. "Рурык" стаў на Няве каля яго дома, граф знаходзіўся ў сваіх маёнтках - яго давялося чакаць да пачатку верасня). Ён накіроўваў падзеі і пісаў лісты, прычым некаторыя з іх доўга захоўваліся ў Нова-Архангельску.

Экспедыцыя О. Кацэбу абгінала Амерыку з падыходам да Аляўцкіх астравоў, Алясkі, Каліфорніі, усюды выконваючы даручэнне шукаць і набываць "рэдкасці". Сярод пачынанняў, у арганізацыі якіх прымаў удзел Румянцаў, была і аляскінская экспедыцыя П. Карсакоўскага. В. Хромчанка, былы штурман "Рурыка" і мічман галіёта "Румянцаў", у 1821 г. камандаваў брыгам "Галаўнін", які быў падрыхтаваны РАК галоўным чынам на сродкі Румянцава і які даследаваў берагі Аляскі. Граф садзейнічаў развіццю асветы сярод каланістаў, абарыгенаў і крэолаў, перадаўшы на Аляску, напрыклад, бібліятэку кніг.

Штосьці з яго калекцый, у т.л. каліфарнійскія прадметы, магло апынуцца ў гомельскім палацы (яны знаходзіліся пазней у маскоўскім Румянцаўскім музеі, пакуль не былі перададзены разам з "паўночна-заходнімі" ў Музей антрапалогіі МДУ і Кунсткамеру).

Румянцаў апекаваўся над Р. Лангсдорфам, які пры яго садзейнічанні паехаў генеральным консулам у Рыа-дэ-Жанейра і быў арганізатарам і кіраўніком першай рускай навуковай экспедыцыі ў Бразіліі, у час якой вывучаліся і індзейцы.

Геаграфічныя цікавасці графа (у т.л. намер выдаць том "Старажытныя падарожжы расіян" [1, с. 85]) і *"патрыятычныя подзвігі мараплаўцаў, здзейсненых за*




*кошт ахвяраванняў Румянцава"* [1, с. 84-85] (такім чынам, ускосна фінансавалі гэта і працаўнікі, падпарадкаваныя графу ў Беларусі) згадваў у "Біяграфічным нарысе, чытаным 15, 16 і 17 верасня 1869 года ва ўрачыстай зале ўніверсітэта св. Уладзіміра…" А. Іваноўскі, адзначыўшы і такую дэталь, як заахвочванне ўдзелу ў даследчых экспедыцыях карэнных жыхароў па абодва бакі ад Берынгава праліва. *"Падобнае даручэнне дадзена было графам Румянцавым і капітану Гагенмейстэру, які быў у 1817 годзе правіцелем нашых былых паўночна-амерыканскіх пасяленняў. Гагенмейстэр таксама на сумы Румянцава ўзнагароджваў тубыльцаў, што рабілі паездкі ўнутр паўночнай Амерыкі"* [1, с. 84].

Пры жыцці яго імем былі названыя гавань і заліў на каліфарнійскім узбярэжжы (цяпер Бадэга) і мыс [1, с. 85] на Алясцы, а пасля смерці яно было ўшанавана ў назве хрыбта на поўначы Аляскі (названы ў 1826 г. Д. Франклінам) - такая колькасць назваў тлумачыцца і яго роллю ў дзейнасці РАК.

Вось як апісаў тое, што адбывалася ў адным з названых у гонар Румянцава месцаў, удзельнік кругасветнага падарожжа Ф. Мацюшкін: *"Іспанцы распаўсюджваюць сваё паляванне за людзьмі да самай Вялікай Бадэгі. У гэты час усе індыйскія [так] плямёны збягаюцца пад гарматы Роса ў г[авань] Румянцава, дзе яны думаюць, што 4 фальканеты і трое рускіх іх у стане абараніць ад іспанцаў. Летась, калі мноства народа сабралася каля Славянска і патрабавалі яго абароны, ён [капітан Кускоў] іх угаварыў засесці ў лясах і цяснінах гор і потым нечакана напасці на іспанцаў. Дзікія яго паслухаліся і заселі ў лесе, які відаць з гавані Румянцава ў бок Вялікай Бадэгі. Але іспанцы, даведаўшыся пра гэта, кінулі сваё пераследаванне"* [2, с. 68].

Румянцаў пакінуў пасля сябе вялікія зборы кніг, рукапісаў, прадметаў мастацтва і матэрыяльнай культуры многіх народаў, у т. л. беларусаў і індзейцаў, але і ў бібліятэцы Паскевічаў былі творы Дж. Ф. Купера, Ф. Р. дэ Шатабрыяна, кнігі па гісторыі Амерыкі і г.д. - поўны "амерыканскі" яе спіс яшчэ чакае свайго "ўкладальніка".

1. [1345] Ивановский, А. Д. Государственный канцлер граф Николай Петрович Румянцов [Румянцев] : биогр. очерк / [А. Д. Ивановский]. - СПб. : тип. Ф. С. Сущинского, 1871. - 172 с.

2. Матюшкин, Ф. Ф. Журнал кругосветного плавания на шлюпе "Камчатка" под командою капитана Головнина / Ф. Ф. Матюшкин // Шур, Л. А. К берегам Нового Света : из неопубликованных записок русских путешественников начала XIX века / Л. А. Шур. - М. : Наука, 1971. - С. 27-76.

**Літ.:**

*9951 Кочубей И. Е. "Мой мир - разноцветная радуга": идеи толерантности в художественной литературе // Н. П. Румянцев и полиэтнические проблемы современности: материалы международной конференции (г. Гомель, 6-8 апреля 2010 г.). М., 2010. С. 28-33.*

*8653 Рассолов М. М. Канцлер Румянцев-Гомельский: исторический роман. М., 2006.*

*5871 Кисель В. П. Открыватели мира: замечательные путешественники, исследователи, первопроходцы / [ред. И. Е. Афнагель; худ. В. Г. Загородний]. Мн., 2000. (Популярный энциклопедический справочник.)*

*3580 Верн Ж. Проклятое золото: история великих путешествий: пер. с фр. Гродно, 1994.*

*8212 Цвейг С. Открытие Эльдорадо // Цвейг С. Избранное. Мн., 1987. С. 463-468.*

*9272 Цвейг С. Побег в бессмертие // Цвейг С. Избранное. Мн., 1987. С. 421-437.*

**НАУМЧЫК *Жорж*** (Навумчык, George Naumczyk) - у мемуарах гэтага дзеяча з Саўт-Рывера (Нью-Джэрсі; быў, у прыватнасці выдаўцом "Беларускай думкі") "Мае ўспаміны з жыцця на Беларусі, у Нямеччыне і Амерыцы" прозвішча яго падаецца як Наумчык, што мы ўзялі за аснову (часам у друку ён "Навумчык"). Гэта бацька, ураджэнец Семежава на Случчыне, яшчэ да яго нараджэння змяніў сваё прозвішча Наумовіч (Навумовіч); маці Пелагея да замужжа была Карсюк. *"У1931 г. нарадзіўся мой брат Стэфан, а 14 лютага 1935 г. там жа на хутары ў Логнавічах і я з'явіўся на свет (у пазнейшых дакументах датай нараджэння запісана 4 лютага 1937 г.)"*. Логнавічы - вёска ў Клецкім раёне, а да рэвалюцыі і пад польскім праўленнем былі яшчэ маёнтак, хутар, фальваркі - усяго некалькі з той жа назвай.

Ва ўспамінах, змешчаных у вып. 40 "Запісаў" БІНіМ (2018), крыху расказана - чамусьці з аўтамбільным акцэнтам - пра гады яго жыцця ў Аклахоме. Служачы ў Форт-Сіл, нельга не наблізіцца да гісторыі індзейцаў, найперш апачаў народа Джэроніма. На сайце U.S. Department of the Interior указваецца, што Anadarko Agency абслугоўвае Apache Tribe of Oklahoma, Caddo Nation of Oklahoma, Comanche Nation of Oklahoma, Delaware Tribe of Western Oklahoma, Fort Sill Apache Tribe of Oklahoma, Kiowa Tribe of Oklahoma, Wichita And Affiliated Tribes of Oklahoma.

Апачаўскае племя Аклахомы Форт-Сіл (у версіі пачатку 1990-х Fort Sill - Chiricahua - Warm Spring - Apache




Жорж Наумчык у арміі. Форт Сіль, 1961

***Жорж Наумчык у Форт-Сіл. George Naumczyk in the army, Fort Sill, 1961***




***Envelope from Fort Sill - Chiricahua - Warm Spring - Apache Tribe (Apache, Oklahoma) 1993-07-21 received 1993-08-07***

Tribe) (Апачэ) гісторыяй сваёй дэпартацыі асабліва гучнае ў гісторыі Форт-Сіл, але ёсць і Апачаўскае племя Заходняй Аклахомы (Apache Tribe of Western Oklahoma, каёва-апачы, або раўнінныя апачы, племянная штаб-кватэра ў Анадарка, цэнтры графства Кэда (Кэдда, Caddo), дзе знаходзіцца і Апачэ; мястэчка Apache размешчана на адной з дарог, па якой можна выехаць з Форт-Сіл на Аклахома-Сіці (пасля Апачэ - Анадарка), больш усходняя - праз Чыкашэй (Чыкаша, Chickasha), куды вядзе дарога з Анадарка; Аклахома-Сіці - на паўночны ўсход ад гэтых населеных пунктаў).

Форт-Сілскія апачы, якія не маюць сваёй рэзервацыі ў Аклахоме, а толькі "зону племяннай юрысдыкцыі"



Apache Tribe of Western Oklahoma
P.O. Box 309
Anadarko, Oklahoma 73005

June 3, 1991
Gomel

Dear Mr. Chairman:

We have received your address from the Southern Plains Indian Museum. We asked for mediatory help, we were advised to write to you direct

It's a high honour to contact your people. We are interested in friendly relations and cooperation with all Indian tribes, but I try to encourage the Byelorussian - Apache rapprochement at the first instanse.

The Kiowa-Apache Tribe is perhaps the most interesting people for me. Unfortunately, I have not enough information about you, especially your modern life. I grew interested in the American Indian in ca. 1976; the Apaches of the Southwest and Oklahoma are the major themes since 1979. My other subjects are the history and present day of Byelorussian - American Indian contacts and Fourth Worldism.

Our Society is a small organization dedicated to develop American Indian knowledge and studies in Byelorussia and Byelorussian - Native American relations

We are particularly interested in your tribal structure and rules. We know that you were affiliated with the Kiowa and also the Comanche. That tribal internationalism is an exciting example of people's alliance. Did you change your Charter for last decades?

We consider tribe the best type of social organization. Maybe it's too unusual and even strange, but we seriously intend to build our own tribe. We hope such a social, political and economic system will protect us from the most unpleasant appearances of our Soviet life.

In closing, we wish your Tribe unity, strenght and well-being. We are strong if you are strong. Our Indian brothers and sisters are welcome to the Byelorussian - American Indian Society!

With best regards,

(Mr.) Ales Simakou
Acting Executive Secretary
Byelorussian-American Indian Society
[redacted]
Gomel 246049
Byelorussia, USSR

***Letter to Apache Tribe of Western Oklahoma (Anadarko, OK) 1991-02-03***




***Envelope from United National Indian Tribal Youth (Oklahoma City, Oklahoma) 1991-01-18***

(графствы Кэда, Каманчэ і Грэйдзі), маюць поспехі ў рэпатрыяцыі на сваю калісьці страчаную малую радзіму (зразумела, яны не думаюць пакідаць Аклахому зусім). У 2011 г. племя атрымала права заснаваць рэзервацыю ў Нью-Мексіка, яно цяпер кантралюе 30 акраў (12 га) каля Дэмінга, па поўдні штата. Таксама адзін прыватны землеўладальнік вярнуў племені 4 акры "свяшчэннай зямлі" ў графстве Качыз (Арызона, Cochise County, Arizona), і яна цяпер адносіцца да іх "даверных зямель" (trust lands).

Афіцыйныя актыўнасць і прызнанне каёва-апачаў пачынаюцца з 1966 г.

Цікава было б даведацца больш пра побыт Жоржа Наумчыка ў Заходняй Аклахоме, але вось тое, што ўжо апублікавана…:

*"У месяцы верасні мяне выклікалі на прызыўную камісію, і 6 кастрычніка 1959 г. я пачаў службу ў амерыканскай арміі. Прайшоў курс вучэбных заняткаў у Форце Дыкс (штат Нью-Джэрзі [Нью-Джэрсі]), пасля чаго мяне перавялі ў артылерыйскую школу ў Форт-Сіль [Форт-Сіл] (штат Аклахома), дзе прабыў аж да 2 лютага 1962 г. У той час у амерыканскай арміі служылі два гады, але пад канец 1961 г. здарыўся Берлінскі крызіс, і нам абвясцілі, што тэрмін службы жаўнераў падоўжыцца на тры месяцы, а афіцэраў - на адзін год. Нават былі гаворкі, што можа выбухнуць вайна. У той час былі патрэбныя жаўнеры, якія б зналі расейскую [рускую] мову. На экзамене па ёй я атрымаў вынік 95%, і ў маіх дакументах была зроблена асобная пазнака, што я валодаю расейскай. Быўшы ў арміі, я атрымаў рангу Privat First Class.*

*Амерыканцы ў той час мала ведалі пра Беларусь. У Саўт-Рыверы многія называлі нас расейцамі, а калі мы пярэчылі, што не расейцы, а беларусы, не маглі зразумець, што гэта такое. Мы тлумачылі, што Беларусь - адна з рэспублік Савецкага Саюза, некалі была самастойнай і славутай краінай. Некаторыя гэтаму верылі, некаторыя не верылі. У арміі я называў сябе Whiterussian (у той час не было слова Belarussian). Мно-*






INTERTRIBAL
...Serving Oklahoma's Indian Country
VOL. 1 ISSUE 3 $1.00 AUGUST 1990

You can find news about various tribes of Oklahoma in "Intertribal" it is my home Oklahoma and is highly populated with Indians

Note of Arthur Landin (Kiowa). Intertribal 1990 August (Vol. 1, Issue 3). Received 1990-09-28. BAIS Library (Gomel)

*гія ўпершыню чулі пра такую краіну, але ўрэшце рэшт мяне сталі клікаць Whiterussian yankee. "Yankee"- таму, што я паходзіў з паўночных штатаў.*

*Падчас службы ў Аклахоме я купіў сабе аўтамабіль - Chevrolet 1955 года выпуску. На ім пару разоў ездзіў у водпуск, у Саўт-Рывер, гэта нейкія 2000 з гакам кіламетраў у адзін бок. Таксама даведаўся, што ў Аклахома-Сіці жывуць мае былыя сябры з Ватэнштэта Валодзя і Аркадзь Шчэпкі. Ад нашага лагера да горада было якія 150 км, і я мог часта адведваць сяброў. Мы разам праводзілі час на забавах і гулянках. У горадзе была праваслаўная грамада, якая належала да Сірыйскай праваслаўнай царквы, мы часта яе наведвалі. 8 кастрычніка 1961 г. я з двума сябрамі-вайскоўцамі ехаў раніцай з Аклахома-Сіці ў наш ваенны лагер па Highway № 277"…* Адбылася аварыя (вінаватым прызналі не яго), у ваенным шпіталі яму зашылі рану на падбароддзі і адправілі служыць далей.

*"Калі вярнуўся з арміі, маці дала мне 1200 долараў, якія я ўнёс як задатак і купіў сабе новы аўтамабіль Pontiac 1962 года выпуску. Гэта была мая чацвёртая машына. Першы Pontiac я купіў, калі мне споўнілася 18 гадоў".*



***Фота ад каёва Артура Ландзіна (Landin). Photo from a Kiowa sent from Oklahoma City in 1990***

**Літ.**: (Апачы)

*7730 Алесин А. "Апачи" у границы // Беларуский рынок. 1999. 19 апр.*

*3180 Апачы // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 1. Мн., 1996. С. 420.*

*12315 Булычев К. Мечта заочника / худож. Е. Мигунов // Булычев К. Они уже здесь! М., 1999. С. 322-351.*

*4903 Дудко Л. "Апачи" победили на Ислочи // Беларускі час. 1997. 28 июля. С. 7.*

*6945 Змушко Е. Полетушки-пострелюшки // Виртуальные радости. 2002. № 9. С. 7. (АН64 "Апач" AH64 Apache.)*

*5340 Кінатэатры ("Віця Глушакоў - сябар апачаў") // Гомельская праўда. 1983. 5 снеж.*

*9562 Костян И. Апачи - прошлое и настоящее. Мозырь, 2015.*

*8594 Костян И. С. 50 легендарных вождей. Мн., 2010.*

*3440 Лофтус Д. Секрет бригады / под науч. ред. В. Севрука // Беларуская думка (Мінск). 1996. № 4. С. 108-122. (Саут-Ривер.)*

*533 Май К. Виннету - вождь апачей. Мн., 1992.*

*4677 Нарысы амерыканскай гісторыі / пад рэд. Г. Сінкота; пер. с англ. Л. Калабан. [Vienna: USIA Regional Program Office]. [Б. г.].*

*12693 Сабин Э. Л. Генерал Крук и сражающиеся апачи / пер. и лит. адаптация И. Костяна. Мн., 2022.*

*291 Симаков А. Белорусские апачи / интервью капитана А. Карлюкевича // Ленинец (газета Минского высшего военно-политического общевойскового училища). 1991. 12 дек.*

*3415 Сімакоў А. Дэпартацыя апачаў у 1886 г. // Весці АНМ. Нацыянальныя меншасці на Беларусі і ў свеце (Брэст). 1997. № 3. С. 32-34.*

*10541 Скобла М. Акно для матылькоў: паэзія і проза. Мн., 2009.*

*6302 Теленеделя (Вт., 20 нояб. Культура. 17:00-17:30 Археология. "Апачи") // Советская Белоруссия. 2001. 17 нояб. С. 7.*

*10290 Чарказян Г. Міша Тапор / з курдскай; пер. К. Камейшы // Літаратура і мастацтва. 2016. 28 кастр. С. 10.*

*2124 Чарняўскі М. З глыбінь тысячагоддзяў. Мн., 1978.*

*9995 Чарняўскі М. Ілюстраваная гісторыя старажытнай Беларусі. Мн., 1997.*

*4657 Шклярский А. Томек на тропе войны. Мн., 1997.*

*10267 Шпілька. ***вандроўка ва ўласнае сэрца / / Верасень. 2013. № 2. С. 51.*

*2744 Эмар Г. Гамбусино: роман / пер с фр. Э. Леонидовой // Буссенар Л. Капитан Сорви-голова: повесть; Эмар Г. Гамбусино: роман / пер. с фр. К.*





*Палевого, Э. Леонидовой; худ. В. В. Гладкевич. Мн., 1994. С. 271-461.*

*6310 Эмар Г. Месть Красных Бизонов / [роман; пер. с фр.]; худ. В. Стащенюк. Мн., 1992.*

*4008 Bleeker S. Apacherna - jagare och plundrare. Stockholm, 1967. (Аўтар - ураджэнка Беларусі.)*

*4007 Bleeker S. The Apache Indians: raiders of the Southwest. London, 1963.*

*10076 Wankowicz M. Droga do Urzedowa. Warszawa, 1989. (Бібліятэка БІТ.)*

*4230 Wankowicz M. Krolik i oceany. Warszawa, 1973. (Apacz.)*

**ШНІП Віктар** (Viktar Shnip) - вёска Пугачы Валожынскага раёна, адсюль загаловак "дзённікавай прозы паэта" "Пугачоўскі цырульнік". У гэтым творы пісьменнік і выдавецка-рэдакцыйны дзеяч (адказны сакратар "Нашага слова" ў 1991-1995 гг.) апісвае нікарагуанца і, у адным запісе, таксама яго суайчыннікаў.



Таварыства беларусаў-індзейцаў!
Калі Вы возьмецеся перакладаць нашыя тэмпланы на англійскую і іспанскую мовы, то Вы атрымаеце тое, што Вам патрэбна.
Выдавецтва „Мастацкая літаратура“

***Note from Mastatskaia Litaratura Publishers (Выдавецтва "Мастацкая літаратура", Мінск) б.д., штэмп. 1991-07-11***

Вышэйшыя літаратурныя курсы Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве Шніп скончыў у 1987 г.

Прывядзём чатыры з пяці запісаў, у якіх ёсць пра нікарагуанца Карласа (прозвішча яго не прыводзіцца). У першым Шніп расказвае пра вечарынку нікарагуанцаў, беларуса і паляка. Калі б не як мінімум сем нікарагуанцаў, сустрэтых Шніпам, а толькі адзін Карлас без антрапалагічнага апісання, мы б, верагодна, і не ўключылі б гэтыя запісы ў нашу хроніку. Запіс, які мы прапусцілі, датычыцца любоўнага трохвугольніка з Карласа, аднаго паляка і масквічкі - было б занадта, калі б мы цытавалі падобнае, нават калі б удзельнікам мікрадрамы быў чыстакроўны індзеец.

***Віктар Шніп***

**Я, НІКАРАГУАНЦЫ І ПАЛЯК**

**У гасцях у нікарагуанца Карласа**

23.08.2009. У Літінстытуце на другі год вучобы пазнаёміўся з паэтам з Нікарагуа Карласам. Хлопцу за трыццаць. Ён удзельнічаў у вызваленчай вайне, быў паранены і цяпер кульгае на правую нагу. Ён мяне і паляка Анжэя [Анджэя] Новака запрасіў да сябе ў госці. Прыйшлі. У пакоі паўзмрок. Акрамя Карласа сядзяць на ложках яшчэ два нікарагуанцы і чатыры нікарагуанкі. Кампанія з намі блытана размаўляе па-расейску [па-руску]. Між сабой гавораць на сваёй мове. Мы нічога не разумеем, але мы прыйшлі з трыма пляшкамі гарэлкі. Пачаліся танцы і песні. Калі скончылася наша гарэлка, Карлас дастаў з тумбачкі бляшанку з дробна парэзаным тытунем [тытунём]. Пачалі рабіць цыгаркі. Праз хвілін дзесяць у пакоі амаль нічога не было бачна ад дыму. І стала наогул весела і лёгка. Захацелася адчыніць акно і выскачыць з яго, бо за плячыма адчуваліся крылы і яны хацелі распрасцерціся… Потым я даведаўся, што мы курылі марыхуану.

**Карлсан з Нікарагуа**

23.08.2009. Сяджу ў гасцях у нікарагуанца Карласа. Успамінае пра сваё дзяцінства. Час ад часу Карласа называю Карлсанам. Ён на гэта ніяк не рэагуе, бо мы п'ём рускую гарэлку і закусваем беларускім салам. Ужо ў шостым класе Карлас пераспаў амаль з усімі настаўніцамі, пасля чаго бацькі ажанілі яго з суседчынай дачкой Хуанітай. Праз тры гады ў сям'і Карласа было трое дзяцей, ад якіх ён уцёк у партызанскі атрад, дзе і пачаў пісаць вершы. І цяпер вось ён, ветэран вайны, амаль класік нікарагуанскай літаратуры, сядзіць са мной у інтэрнаце Літінстытута, п'е рускую гарэлку, закусвае беларускім салам і ўспамінае пра сваё дзяцінства…

***Tarjeta de Ano Nuevo de los nicaraguenses a Aleksandr Snitko (Gomel) 1987-12-30***








***Новогодняя открытка от никарагуанцев Александру Снитко (Гомель) 1987-12-30***

**Лякарства**

19.10.2009. Літінстытут. Хварэю. Адзін у пакоі. Ніхто не прыходзіць адведаць, і толькі вечарам у пятніцу пасля заняткаў зайшоў паляк Анжэй [Анджэй]. Колькі хвілін пасядзеў моўчкі каля мяне, як каля паміраючага, і пайшоў. І не паспеў я пакрыўдзіцца на Анжэя [Анджэя], як у пакой з гітарай уварваўся нікарагуанец Карлас, а следам за ім тры казашкі і паляк. Праз хвілін пятнаццаць я спяваў рэвалюцыйныя песні і танчыў…

**Карлас і Ваганькаўскія могілкі**

21.10.2009. Нікарагуанец Карлас на летнія вакацыі не паехаў да сябе на Радзіму. Тры месяцы падпрацоўваў начным вартаўніком на Ваганькаўскіх могілках. Потым часта расказваў пра Ясеніна з Высоцкім, якія па выхадных хадзілі сярод магіл, курылі кубінскія сігары, пілі савецкае шампанскае і клікалі яго ў сваю кампанію.

У працягу дзённікавай раманістыкі Шніпа - "Заўтра была адліга - 3" - успамін (Дзень пятнаццаты. Германія. Мюнхен, 18.07.2015) пра тое, як яны з жонкай Людмілай Рублеўскай наведалі музей класічнага мастацтва і рушылі далей.

*"Паабедалі ў кафэшцы "У францысканцаў". Тут*




***Envelope from Waldemar Kalinin 1989-07-05 (адрас на адв. баку канверта - турбаза "Браслаўскія азёры")***

*былі мы і ў мінулым годзе. Абслугоўваў нейкі індзеец ці цыган. Больш сюды не пойдзем, бо абслугоўваў кепска, не ўсё прынёс, што заказвалі…*

*Побач прайшоў немец. Высокі. Метры два. Чамусьці падумалася: "Не ўсіх вайна перабіла…"*

Пахадзілі па горадзе. У адной краме прадавачка сказала Людміле: "Тут для вас нічога няма! Вы худзенькая…"

Сабраліся ад'язджаць, а тут нашу вуліцу запоўнілі будысты з барабанамі, танцамі і песнямі. Наперадзе ў іх паліцыя. Словам, дэмакратыя…"

**Літ.:**

*12958 Шніп В. Пугачоўскі цырульнік: дзённікавая проза паэта. Мн., 2013.*

*10749 Шніп В. Заўтра была адліга-3 // Полымя. 2016. № 5. С. 10-45; № 6. С. 27-60.*

*12957 Шніп В. Заўтра была адліга-3: дзённікавы раман паэта. Мн., 2023.*

*7531 Шніп В. Зьмяя саграваецца ў зьмейцы, А ў доме тваім - індзейцы… // Наша ніва. 1998. 26 кастр. С. 15.*

*12370 Мой дзень пачынаецца: проза і паэзія маладых / [уклад. В. Шніп]. Мн., 2015. (Арцёмаў А. Не дойдзе да Тэначтытлана ацтэкскі ваяр…)*

*10472 Радзіма мая дарагая: зборнік твораў для 6-га класа: у 2 кн. / уклад. В. Шніп. Мн., 2017. (Якімовіч А. Эльдарада просіць дапамогі.)*

**ШЧУР Максім** (2) - досвед з індзейскімі музыкантамі апісаны ў яго творах з рознай дэталёвасцю. Пра беларускі мы знайшлі літаральна некалькі фраз.

Першы, менскі эпізод - з: "Адрасная кніга: раман ня ў прозе / Макс Шчур. - Мінск : ІП А.М. Янушкевіч, 2016. - (Серыя "Электронная кнігарня"). - Электрон. тэкст. дан. (колькасць 0,999 Мб). - Лічбавае электрон. выд. - Загал. з тытул. экрана". *"Абчытаўшыся Мантэня і Букоўскага, а таксама ўзброены абсалютнай склератычнай памяццю і google.maps, аўтар робіць дзёрзкую для сваёй параўнальна неглыбокай старасці спробу аднавіць на*

*паперы асобныя эпізоды свайго жыцця і навучання ў Менску ў 1994-1998 гг. Атрыманы ў выніку трохтыднёвага творчага запою "раман не ў прозе"* ёсць своеасаблівым дадаткам да рамана ў прозе "Там, дзе нас няма" (2004 г.) і адначасова водгукам на кнігу Сяргея Прылуцкага "Дзевяностыя forever"".

У раздзеле "12. In My Defence" напісана, што *"на Якуба Коласа гралі жыўцом лацінаамерыканскія музыкі-індэйцы [,] з якімі мы пасля бліжэй пазнаёміліся [,] асабліва дзяўчаты й Тлусты"* (фарматызацыя арыгінальнага тэксту, у якім, акрамя ўсяго. адсутнічае пунктуацыя, наша).

Пры гэтым аўтар не дэталізуе зносіны, што былі з музыкамі ("не буду ўдавацца ў дэталі"), але яны могуць быць пры выданні ў 2025 г. яго кнігі ўспамінаў (поспех якога залежыць і ад патэнцыяльных пакупнікоў яе).

Пражскі эпізод, які змешчаны ў апавяданні "Ліст, знойдзены на папялішчы" і займае каля 13 старонак, - здаецца фікцыйным, літаратурным, але ў ім ёсць і адсылка да, верагодна, рэальнага назірання.

У цікавым для нас месцы ўздымаюцца розныя цывілізацыйныя пытанні… галоўным чынам Мексікі, Мезаамерыкі.

З тарашкевіцы (заўсёды практычна мець і альтэрнатыўную "афіцыйную" версію правапісу; як бачым, акрамя формы "індыяне", Макс ужываў і форму "індэйцы"):

*"Бамбіза паціснуў плячыма. Вендула зноў умяшалася ў размову:*

*- Ды не - іспанец нейкі, здаецца... Тварам падобны да індэйца [індзейца]...*

*- Ат! - пакруціў галавой бамбіза. - Цыган як цыган... - А навошта ён вам? Ён што, нейкі наркабарон? - пацікавілася Вендула.*

*- Накшталт таго, - збрахаў я. - А можа, ён пакінуў вам свой адрас? Тэлефон?*

*- Ды не - разлічыўся й пайшоў. Звычайны чужынец... Такіх тату-турыстаў у нас штодня процьма - ездзяць сюды па наколкі, бо ў іх за мяжой яны даражэй каштуюць...*

*- А можа, у вас ёсць яшчэ які-небудзь ягоны фотаздымак?*

*Бамбіза задумаўся.*

*- Мы сфоткалі яго пару разоў, для рэкламы..."*

*"Але ж сустрэць індэйца [індзейца] ў Празе? Прадстаўнікоў аўтахтоннага насельніцтва Амерыкі я бачыў тут, у чэшскім геалагічным катлаване, толькі аднойчы: гэта былі вулічныя музыкі з Балівіі, што дакладна не мелі нічога агульнага з майя - памятаю, я пастаяў з імі, пагутарыў, набыў іх касету (з спачування, бо гралі яны не надта прафесійна) ды пайшоў. Гэта быў адзіны выпадак. У Заходняй Еўропе, праўда, індэйскія [індзейскія] музыкі трапляюцца нашмат часцей, але і там гэта практычна спрэс балівійцы - ніводнага мексіканскага (ці, скажам, аргенцінскага) вулічнага ансамблю я ў Старым свеце чамусьці ніколі не сустракаў.*

*Тут я ўзгадаў, што ўсе пражскія лацінасы маюць звычку рана ці позна заходзіць у "Ла Каса Вердэ" - кавярню, вельмі папулярную карчму ў Старым Месце, уладальнік якой, чылієц, быў яшчэ і пісьменнікам: з ім мы час ад часу гутарылі пра футбол. З усіх лацін[а]-амерыканскіх рэстарацый, шынкоў і кавярняў гэтая была ў Празе найстарэйшай - яе заснавалі ўсяго праз пяцьсот гадоў пасля адкрыцця Амерыкі. Такім чынам, мне нічога не заставалася, як паспытаць шчасця там: дапіўшы сваю каву і з'еўшы свой традыцыйны калабок колеру чакаляды [шакаладу] (як цудоўна, што гэты расійскі нацыянальны ласунак дакаціўся да Амерыкі, зусім не згубіўшы смаку!), я рушыў у гістарычны цэнтр".*


110 07 PRAHA 07
PAR AVION
JURIJ GLUSHAKOV
FAB, C/O CENTRE FOR INDIGENOUS A.
AMERICA INDIAN SOCIETY
PO BOX 114
GOMEL 246049
BELORUSSIA

**Envelope from Praha (Prague) to Yury Glushakov (FAB) 1997-11-26**


Паважаныя Алесь і Вашы аднадумцы! Перадаю Вам сваё прывітанне, а таксама запрашаю паглядзець нашу перадачу 20-га ліпеня, у чацвер, у 19-30 па праграме беларускага тэлебачання, будзце міласэрдны до нашага аматарскага мастацтва. З прывітаннем Валодзімір (адзін з цыган, як мяне людзі назвалі)

Куда: Гомель,
Кому: Сіманову Алесю
Индекс предприятия связи и адрес отправителя: 211970 Браслаў, Віцебск. вобл., турбаза „Браслаўскія азёры" Калініну Валодзімиру
246049
Пишите индекс предприятия связи места назначения

**Postcard from Vitebsk Gypsy writer Valdemar Kalinin (Braslau, Браслаў, Браслав) 1989-07-15**

**Літ.:**

12949 Шчур М. Зьвяз патрыётаў // Шчур М. Ліст, знойдзены на папялішчы: апавяданьні. [Познань], 2011. С. 26-56. (ЭК НББ: [Познань?]: Выдавецтва В. Воранава, Белы крумкач, 2011.)

12950 Шчур М. Ліст, знойдзены на папялішчы // Шчур М. Ліст, знойдзены на папялішчы: апавяданьні. [Познань], 2011. С. 57-79. (Лапіцкая 2011: ""Ліст…" распачынаецца зваротам да Прэзідэнта ЗША і датуецца 15 лістапада 2010 г. Адмысловец, які "вывучаў







***Паштоўка ад Вальдэмара Калініна (цыган па бацьку, беларус па маці) па штэмп. Браслаў 1989-07-15***

*амерыканістыку ў Пражскім універсітэце" піша "з мэтай прадухіліць катастрофу" - і распавядае пра татуіроўку-іерогліф, якая мае вельмі пагрозлівы сэнс: знішчэнне белай расы 12 снежня 2011 года. Пошукі ўладальніка татуіроўкі скончыліся ва ўлюбёнай лацінасамі карчме, дзе герой абмяркоўвае асаблівасці індзейскай культуры з агентам кубінскай спецслужбы, які некалькі гадзінаў таму памёр".)*

*12947 Лапіцкая А. Напярэдадні "БУБ-новай" літаратуры: рэц. на: Шчур Макс. "Ліст, знойдзены на папялішчы": апавяданні. Познань: Белы крумкач, 2011 / / Дзеяслоў. 2011. № 6. С. 297-300.*

*7442 Шчур М. Госьць з будучага, альбо фэномэн Хадановіча // Arche. 2003. № 2. С. 186-190.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by),*
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Індзейцы, индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 132].***

# Калядная сімфонія

У Лідскім тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва адбыўся баль для пажылых грамадзян "Калядная сімфонія".

Лідзяне элегантнага ўзросту танчылі кадрылю, польку і мазурку, вучыліся выконваць танга і вальсавалі, гулялі ў "Ручаёкк". Дапамагалі ім у гэтым, праводзілі майстар-клас і вялі рэй удзельнікі харэаграфічных аматарскіх аб'яднанняў Палаца культуры горада Ліды.







Праўяралі свае веды па бальным этыкеце ўдзельнікі мерапрыемства пад класічную музыку ў выкананні камернага аркестра Лідскага музычнага каледжа.

***ТК "Культура Лідчыны".***





# Спевы, віншаванні і добрыя пажаданні гаспадарам...

6 студзеня ў аграгарадку Ваверка, вёсках Альхоўка і Чаплі (Лідскі раён) адбыўся традыцыйны абрад калядавання "Тры каралі", які паказвае свет глыбінных традыцый нашых продкаў!









Аб'яўленне Пана - урачыстасць, якую адзначаюць каталіцкія вернікі 6 студзеня, успамінаючы ў гэты дзень пакланенне мудрацоў з усходу, што прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцёльная традыцыя называе гэтых мудрацоў Каралямі, а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення.

У 2024 годзе элементу "Традыцыйнае свята "Тры каралі" на Гарадзеншчыне нададзены статус гісторычна-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь.

*ТК "Культура Лідчыны".*

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 13.01.2025 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2,75 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*